

Год выданьня 66. № 620, Красавік 2016 г.

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

ISSN 1054-9455



BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Association, Inc.



Postal address: P.O. Box 456 New York, NY 10025 USA
E-mail: bielarus@bazahq.org


# Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі



19 сакавіка ў Нью-Ёрку адбылася чарговая XXIX Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Сэсія Рады БНР – найвышэйшая інстанцыя ў працы Рады. Паводле Статуту Рады БНР Сэсіі праходзяць кожныя два гады. На сёлетняй Сэсіі былі заслуханы справаздачы старшыні, скарбніка і профільных сакратарыятаў, а таксама былі абмеркаваныя ўнутраныя пытаньні працы Рады БНР.

Удзельнікі Сэсіі абмеркавалі ўнутрыпалітычную сытуацыю ў Беларусі і міжнародную палітыку ў рэгіёне. У выніку былі прынятыя некалькі рэзалюцыяў, у тым ліку рэзалюцыя "Аб уцягваньні Беларусі ў зону вайсковых інтарэсаў Расеі", у якой Рада выказвае занепакоенасьць здольнасьцю Ўзброеных Сілаў Беларусі ў цяперашнім іх стане абараніць незалежнасьць дзяржавы і патрабуе як мага хутчэйшага вываду расейскіх ваенных аб'ектаў зь Беларусі. У асобнай рэзалюцыі аб стаўленьні Захаду да рэжыму А. Лукашэнкі Рада БНР крытыкуе цяперашнюю палітыку ЭЗ адносна Беларусі як недальнабачную і асуджае зьняцьцё санкцый без выкананьня афіцыйным Менскам ранейшых патрабаваньняў адносна дэмакратызацыі і правоў чалавека.Таксама былі прынятыя рэзалюцыя з нагоды 30-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС і рашэньне аб узнагародах Рады БНР. Акрамя гэтага, на Сэсіі была ўзгаданая нядаўняя рэзалюцыя Рады БНР, у якой патрабуецца неадкладнае вызваленьне расейскімі ўладамі ўкраінскага афіцэра Надзеі Саўчанкі. У другой палове паседжаньня Сэсіі адбыліся выбары старшыні Рады, заступнікаў старшыні і складу Прэзыдыюму.



На пасаду старшыні Рады БНР была прапанаваная і пераабраная Івонка Сурвілла. Першым заступнікам старышыні пераабраны Сяргей Навумчык, заступнікамі пераабраны Вячка Станкевіч і абраны Мікола Пачкаеў. Падсумоўваючы вынікі працы Сэсіі, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла адзначыла: "У цяперашні час, калі ўзмацняюцца агрэсіўныя памкненьні Расеі, роля Рады БНР, як легітымнага прадстаўніка інтарэсаў незалежнай і вольнай Беларусі, робіцца важнейшаю. Рада надалей працягне сваю працу згодна з мандатам Усебеларускага Зьезду 1917 г. і трыма Устаўнымі граматамі 1918 г."

***Шаноўныя чытачы!***

Першы вясновы месяц для беларусаў Амэрыкі, як і для нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне і па цэлым сьвеце, застаецца назаўсёды зьвязаным з галоўным нацыянальным сьвятам - Днём Волі. Кожны год мы ўрачыста адзначаем чарговыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Сёлета гэта была 98 гадавіна і мы ўжо зусім блізка набліжаемся да слаўнага 100-гадовага юбілею нашай незалежнасьці.

Гэты выпуск нашай газэты прысьвечаны найперш тэме сьвяткаваньня. Мы падаем інфармацыі, як адзначалі Сакавік беларусы ў Амэрыцы і Канадзе.

Незадоўга перад Сьвятам у Нью-Ёрку адбылася Сэсія Рады БНР, на якой былі прынятыя важныя дакумэнты і адбыліся перавыбары кіраўніцтва. Гэтую падзею мы таксама асьвятляем на старонках газэты.

На жаль, апісаньні сьвяточных падзеяў у гэтым нумары суседнічаюць з вельмі сумнымі навінамі з Беларусі. Пададзеныя тут некралёгі гавораць пра цяжкія і незваротныя страты, якія панесла беларуская культура і ўся беларуская нацыя ў гэтыя вясновыя дні.

Аднак, паўсюднае сьвяткаваньне Дня Волі дэмакратычнымі сіламі беларускай нацыі, у тым ліку з актыўным удзелам новага маладога пакаленьня, надае нам аптымізму і веры, што страты і цяжкасьці будуць перадоленыя нашымі агульнымі намаганьнямі.

Жыве Беларусь!

*Рэдакцыя*

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## XXIX чарговай сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

## Аб палітыцы Эўрапейскага Зьвязу да Беларусі

*19 сакавіка 2016 г.*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, разгледзіўшы на XXIX чарговай сэсіі ў Нью-Ёрку стан палітыкі Эўрапейскага Зьвязу да Беларусі, заклікае супрацьстаяць тэндэнцыям у гэтай палітыцы да разыходжаньня як з падставовымі каштоўнасьцямі Эўрапейскага Зьвязу, гэтак і зь беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі ў галіне забесьпячэньня незалежнай і дэмакратычнай будучыні для Беларусі, і прыймае наступную Рэзалюцыю:

- З увагі на заявы Рады БНР, палітычных, грамадзкіх і праваабарончых арганізацыяў у Беларусі і ў замежжы, з заклікамі да захадаў міжнароднага супрацьдзеяньня палітычным рэпрэсіям, парушэньню палітычных правоў і правоў чалавека ў Беларусі з 1995 году, асабліва са спасылкаю на Зварот Рады БНР ад 28 сьнежня 2010 г. і Заяву Прэзыдыюму Рады БНР ад 18 кастрычніка 2013 г.,

- Прыгадваючы «Мэмарандум нарады старшыняў і кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі „Аб захадах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі "» ад 3 лістапада 2012 г., у асаблівасьці ў п. 4: «Павінен быць мацнейшы скаардынаваны ціск палітычнай і грамадзянскай супольнасьці ў краіне і за яе межамі дзеля зьмяншэньня ў беларускім грамадзтве пачуцьця страху, найперш вызваленьня і рэгабілітацыі палітычных вязьняў, спыненьня палітычных рэпрэсіяў і дэмантажу рэпрэсіўнага апарату, свабоды для сродкаў масавай інфармацыі, а ўрэшце – правядзеньня свабодных выбараў»,

- Прыгадваючы матывацыйныя часткі рашэньняў Рады Эўрапейскага Зьвязу пры ўвядзеньні і падаўжэньні абмежавальных мераў супраць фізычных і юрыдычных асобаў, на падставах іх датычнасьці да арганізацыі палітычных рэпрэсіяў, бесчалавечнага абыходжаньня з ахвярамі, фальсыфікацыяў выбараў, падтрыманьня рэпрэсіўнага рэжыма, іншых цяжкіх парушэньняў грамадзянскіх, палітычных правоў і правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, асабліва са спасылкаю на: «Агульная пазыцыя Рады» [ЭЗ] №2004/848/CFSP ад 13 сьнежня 2004 г., «Агульная пазыцыя Рады» [ЭЗ] №2006/-276/CFSP ад 10 красавіка 2006 г., «Рашэньне Рады» [ЭЗ] №2010/639/CFSP ад 25 кастрычніка 2010 г., «Рашэньне Рады» [ЭЗ] №2011/69/CFSP ад 31 студзеня 2011 г., «Рашэньне Рады» [ЭЗ] №2012/642/CFSP ад 15 кастрычніка 2012 г.,

- Разглядаючы рашэньне Рады ЭЗ аб прыпыненьні санкцыяў супраць згаданых вышэй юрыдычных і фізычных асобаў у Беларусі, прынятае шляхам «Рашэньня Рады» [ЭЗ] (CFSP) №2015/1957 ад 29 кастрычніка 2015 г., а таксама разглядаючы «Высновы Рады [ЭЗ] аб Беларусі» ад 15 лютага 2016 і «Рашэньне Рады» [ЭЗ] (CFSP) №2016/280 ад 25 лютага 2016 г., шляхам чаго названыя санкцыі былі скасаваныя, акрамя як супраць чатырох асобаў,

Супастаўляючы рашэньні Рады ЭЗ (CFSP) №2015/1957 ад 29 каст-

*Заканчэньне на бачынах 6-7*







# Дзень волі ў Нью-Ёрку

3 красавіка беларусы Нью-Ёрку і Нью Джэрзі супольна ўрачыста адзначылі 98-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР.

Сьвяткаваньне праводзілася ў будынку Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Брукліне. Ладзілася яно Бруклінскім аддзелам БАЗА, Аддзелам БАЗА ў Нью Джэрзі і Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня". Сьвяточная падзея распачалася раніцаю ў царкве, дзе быў адслужаны Малебен за Беларусь. Далей сьвяткаваньне перамясьцілася ў грамадзка-царкоўную залю. Афіцыйную частку сьвята адчыніла старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА Тацьцяна Красоўская. Былі зачытаныя віншаваньні ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, ад Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына " з Менску, ад беларусаў з Вашынгтону, з Флярыды, Чыкага, ад Згуртаваньня беларусаў Канады

Замест традыцыйнага сьвяточнага рэфэрату пра падзеі сакавіка 1918 году моладзь Бруклінскага аддзелу БАЗА падрыхтавала мастацкую інтэрпрэтацыю тых гістарычных старонак нашай гісторыі. Драматычная пастаноўка па раману "Пляц Волі" А. Пашкевіча была прысьвечаная Першаму Усебеларускаму з'езду. Герояў раману Алеся Гаруна і Алеся Бусла вельмі натуральна і пранікнёна сыгралі адпаведна Сяргей Касьцюк і Сяргей Кіяткін. Тэатральная дзея, падрыхтаваная па прапанове і рэжысаваньні Натальлі Федарэнка, кранула сэрцы прысутных і была вельмі эмацыйна ўспрынятая заляю.

Далей з вішавальнымі прамовамі, выступілі Зянон Пазьняк, Янка Запруднік, старшыня Галоўнай управы БАЗА Ганна Сурмач.









З асаблівай увагаю слухалі удзельнікі сьвята выступ шаноўнага госьця з Беларусі паэта Уладзіміра Някляева. У Беларусі і беларускім замежжы ведаюць сп. Някляева не толькі як аднаго з выбітных прадстаўнікоў сучаснай беларускай літаратуры, але і як палітыка, які ў гэты складаны час прыняў рашэньне змагацца за незалежнасьць і лепшую будучыню сваёй Бацькаўшчыны не толькі паэтычным радком, але і рэальным актыўным удзелам у апазыцыйным руху супроць дыктатуры. У 2010 годзе сп. Някляеў удзельнічаў у прэзыдэнцкіх выбарах у якасьці кандыдата на пасаду прэзыдэнта. Пад час сумна вядомых падзеяў "Плошча - 2010" быў зьбіты і арыштаваны, трапіў у турму і зьведаў іншыя метады барацьбы з апазыцыяй, якія ўжывае дыктатарскі рэжым. Аднак, выпрабаваньні не зламалі ягоны дух, ён па ранейшаму зьяўляецца адным з лідэраў апазыцыйнага руху у Беларусі. Сп. Някляеў прывітаў амэрыканскіх беларусаў ад імя тых, хто змагаецца на Бацькаўшчыне за вольную, дэмакратычную Беларусь. Ён выказаў спадзяваньне, што беларуская эміграцыя будзе супрацоўнічаць з патрыётамі на Радзіме, каб разам аб'яднаць сілы і дамагчыся перамогі.

Уладзімір Някляеў адносіцца да тых літаратараў, хто найлепш можа сам прадэманстраваць уласную творчасьць. Прыродныя здольнасьці да мастацкага чытаньня надзвычай выразна выявіліся пад час аўтарскай дэклямацыі ягоных вершаў. Асабліва ўразіў слухачоў прачытаны паэтам маналёг Ягайлы з паэмы "Паланэз". Тэкст гэтага твора мы падаем у гэтым выпуску газэты.

Адметнай зьяваю на сёлетнім сьвяткаваньні сталася прысутнасьць госьця ад украінскай супольнасьці ў Амэрыцы. Раней беларуская эміграцыя мела самыя цесныя кантакты з украінцамі і заўсёды адбываліся ўзаемныя віншаваньні са сьвятамі. Цяпер гэта традыцыя адноўленая. Беларусаў вітала сп. Іванка Заяц - намесьнік старшыні Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

Канцэртную частку правёў знакаміты беларускі ансамбль у складзе Валянціны Пархоменка, Алеся Казака і Вольгі Казак-Анлар. Патрыятычныя песьні ў іхным выкананьні дадалі сьвяту ўзьнёсласьці і эмацыйнага пад'ёму, а лірычныя мелёдыі цешылі душу, не абышлося і без вясёлых танцаў і скокаў пад "Лявоніху".

Сьвяточнаму настрою спрыяла і смачная сьвяточная ежа, якую падрыхтавалі маладыя сяброўкі БАЗА і адмысловыя кулінаркі - сёстры Алена і Вольга Талатыньнік.

Завяршылася сьвяткаваньне Гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".











# Дзень Волі ў Вашынгтоне

Для Вашынгтонскага гуртка БАЗА ўжо сталася добрай традыцыяй у Дзень Волі прыносіць бел-чырвона-белыя кветкі да Помніка ахвярам камунізму, што ўстаноўлены ў амэрыканскай сталіцы. У гэты самы дзень таксама адзначаецца гадавіна дэпартацыі балтаў, якая адбылася ў 1949 годзе. Заўсёды прысутнічаюць прадстаўнікі Абьяднанага Балтыйска-Амерыканскага Нацыянальнага Камітэту (JBANC), зь якім БАЗА-Вашынгтон шчыльна супрацоўнічае, амбасадары балтыйскіх краінаў, іншыя арганізацыі дыяспары. Гучаць прамовы. У гэтым годзе са сьвяточнай прамовай ад БАЗА выступіў малады сябра гуртка Мікіта Ільяшэвіч.

***Вячаслаў Бортнік***



***На фота:*** *Мікіта Ільяшэвіч, Раман Васілюк, Ірына Красоўская, Алеся Кіпель, Яўген Барысевіч, Яўгенія Курбат ды Натальля Рабава-Дэніэлз.*



# Дзень волі ў Чыкага

Сьвяткаваньне Дня волі ў Чыкага сёлета адбывалася асабліва ўрачыста. З Беларусі на сьвята завітаў знакаміты сьпявак, бард Зьміцер Вайцюшкевіч. 26 сакавіка у Беларускім цэнтры сабралася даволі шмат людзей, якім было цікава пабыць разам, каб адзначыць наша найвялікшае нацыянальнае сьвята, паслухаць госьця, пагаманіць, абмеркаваць набалелае, і павесяліцца таксама.

***Жанна Чарняўская***



***Пачатак на 1-й бачыне***

рычніка 2015 і №2016/280 ад 25 лютага 2016, а таксама зьмест «Высноваў Рады [ЭЗ] аб Беларусі» ад 15 лютага 2016 – з аднachасовымі высновамі прадстаўнікоў міжнародных арганізацыяў, у прыватнасьці:

- «Канчатковая справаздача Місіі па назіраньні за выбарамі АБСЭ/БДІПЧ» на прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі 11 кастрычніка 2015 г. ад 28 студзеня 2016 г., у высновах якой адзначаецца, што згаданыя выбары не адпавядалі стандартам дэмакратычных, што для адпаведных рэформаў адсутая палітычная воля кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, што «наяўнасьць істотных праблемаў [...] ставіць пад сумнеў сумленнасьць выбарчага працэсу», і што вызваленыя палітычныя вязьні надалей пазбаўлены права выступаць кандыдатамі на выбарах і знаходзяцца пад пагрозаю далейшых рэпрэсіяў;

- Заява Прадстаўніка АБСЭ па справах свабоды прэсы ад 27 студзеня 2016 г., з асуджэньнем гвалту міліцыі супраць журналіста ў Беларусі, і з чарговым заклікам да ўладаў спыніць перасьлед прадстаўнікоў СМІ;

- Заява Спэцыяльнага Дакладчыка ААН аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі ад 9 лютага 2016 г., дзе зазначаецца, што «напрацягу чатырох месяцаў з часу прэзыдэнцкіх выбараў у кастрычніку, у Беларусі не было запачаткавана ніякіх зьменаў дзеля зьмены рэпрэсіўных законаў і практыкі, тады як паўсталі шматлікія выпадкі новых парушэньняў падставывых правоў», а таксама: «Нягледзячы на частковае прыпыненьне санкцыяў ЭЗ і ЗША, аб чым было выражана ў чаканьні далейшага паляпшэньня становішча з правамі чалавека, улады не спынілі сыстэматычны перасьлед тых, хто спрабаваў карыстацца сваімі асабістымі, грамадзянскімі палітычнымі і іншымі правамі»;

Беручы пад увагу, што:

I. Як даводзіцца, у прыватнасьці, высновамі міжнародных арганізацыяў – Рада ЭЗ прыпыніла, а пасьля скасавала дзеяньне названых санкцыяў насуперак таму, што тыя абставіны, факты і палітыка ўладаў у Рэспубліцы Беларусь, якія былі зафіксаваныя Радай ЭЗ 2006-2015 у якасьці законных падставаў для ўвядзеньня і падаўжэньня гэтых санкцыяў, засталіся прынцыпова і ў цэлым нязьменнымі. Рада ЭЗ сама не сьцьвярджае аб зьнікненьні гэтых падставаў, а ў «Высновах Рады [ЭЗ] аб Беларусі» 15 лютага 2016 (п.2) прызнае, што і на момант рашэньня аб зьняцьці санкцыяў правы чалавека ў Беларусі застаюцца прадметам занепакаеньня;

II. Палітычныя рэпрэсіі, рэакцыяй на якія было ўведзеньне санкцыі, не былі ў Беларусі юрыдычна скончаныя, у прыватнасьці пацярпелыя не былі рэабілітаваныя, правы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў на ўдзел у палітычным жыцьці застаюцца парушаныя, умовы для свабодных і справядлівых выбараў ня створаныя, працягваюцца акты брутальнасьці сілавых структур супраць актывістаў апазыцыі і прадстаўнікоў прэсы, палітычна-матываваныя судовы перасьлед удзельнікаў мірных акцыяў пратэсту:

II-1. Рада БНР зьвяртае ўвагу ў прыватнасьці на справу кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах РБ 2010 г. сп. Алеся Міхалевіча, якому было адмоўлена ў закрыцьці крымінальнае справы ўжо пасьля рашэньня Рады ЭЗ (CFSP) №2015/1957 ад 29 кастрычніка 2015 г., і які быў пакінуты ў статусе абвінавачанага і пасьля рашэньня Рады ЭЗ аб скасаваньні санкцыяў (CPRF) №2016/280 ад 25 лютага 2016 г.;

II-2. Рада БНР зьвяртае ўвагу на вынесеньне ўладамі РБ мноства палітычна матываваных рэпрэсіўных прысудаў ужо пасьля прыпыненьня і скасаваньня санкцыяў. Назіраецца зьмена акцэнта з арыштаў на штрафы ў памерах, што часта шматкроць перавышаюць сярэдні месячны заробак у Беларусі. Шляхам такіх штрафаў ахвяры матэрыяльна паралізуюцца, ствараюцца падставы для канфіскацыі і арышта. Варты адзначэньня факт вынесеньня такіх прысудаў судзьдзямі, зь якіх Рада ЭЗ зьняла санкцыі шляхам названых вышэй рашэньняў. Рада БНР зьвяртае ў гэтай сувязі ўвагу на справы, сярод іншых, кандыдатаў на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 г. сп.сп. Уладзіміра Някляева і Мікалая Статкевіча, старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Анатоля Лябедзькі, актывістаў «Эўрапейскай Беларусі» Леаніда Кулакова і Максіма Вінярскага, лідэра руху салідарнасьці «Разам» Вячаслава Сіўчыка, аднаго зь лідараў беларускіх прадпрымальнікаў Алеся Макаева, актывіста абароны правоў чалавека Мікалая Казлова;

III. Названыя вышэй рашэньні Рады ЭЗ аб зьняцьці санкцыяў не суправаджалася ані адпаведным узмацненьнем падтрымкі з боку ЭЗ для беларускіх дэмакратычных сілаў, ані захадамі дзеля эўрапейскай інтэграванасьці для грамадзян Рэспублікі Беларусь;

1. Зазначае, што пры акрэсьленых вышэй абставінах скасаваньне санкцыяў адносна асобаў і ўстановаў, адказных за цяжкія парушэньні правоў грамадзян Беларусі, падрывае эфэктыўнасьць усіх ужытых дагэтуль захадаў ЭЗ па супрацьдзеяньні рэпрэсіям у Беларусі, а таксама дыскрэтуе патэнцыял дзейснасьці такіх захадаў у будучыні, як з пункту гледжаньня сытуацыі ў Беларусі, гэтак і ў рэгіянальным і шырэйшым міжнародным вымярэньні;

2. Зазначае, што спасылка ў «Высновах Рады [ЭЗ] аб Беларусі» ад 15 лютага 2016, у кантэксьце рашэньня аб скасаваньні санкцыяў, на «канструктыўную ролю ў рэгіёне», якую нібыта граюць улады Аляксандра Лукашэнкі, паказвае на магчымасьць, што рашэньне Рады ЭЗ аб скасаваньні было прынята без істотнай сувязі з тымі падставамі і мэтамі, дзеля якіх санкцыі былі ўведзеныя. Рада БНР заяўляе аб непрыймальнасьці палітыкі вырашэньня рэгіянальных задачаў трэціх бакоў за кошт інтарэсаў аднаўленьня дэмакратыі, законнасьці, свабоды і правоў беларусаў. Дадаткова Рада БНР заяўляе, што рэжым, дзяржаўная палітыка якога ёсьць закладнікам неабмежаванай волі і інтарэсаў аднэй асобы, ня можа быць сапраўдны канструктыўным фактарам рэгіянальнай стабільнасьці;

***Заканчэньне на 7-й бачыне***

# Сьвяткаваньне Дня Волі ў Таронта



У нядзелю 20 сакавіка Згуртаваньне Беларусаў Канады адзначыла 98-ую гадавіну абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі сьвяточным шэсьцем зь бель-чырвона-белымі сьцягамі па цэнтральнай вуліцы Таронта – найбуйнейшага гораду Канады.

Пасьля службы ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) удзельнікі скіраваліся ў парк Крысьці дзе прайшоў кароткі мітынг. Было адзначана, што 20 сакавіка падвойная дата: акрамя гадавіны Дню Волі ў той жа дзень 10 гадоў таму на пляцы Каліноўскага (Кастрычніцкім пл.) ў Менску былі ўсталяваныя першыя намёты й пачалася варта, якую шмат хто кліча «Беларускім Майданам».



Шэсьце прайшло вуліцай Блюр (адна з двух цэнтральных вуліц Таронта) да Беларускага Цэнтру, што на скрыжаваньні з вуліцай Лэнсдаўн. Падчас шэсьця ўдзельнікі скандавалі «Freedom to Belarus!» («Свабоду Беларусі!»), «Жыве Беларусь!». Таксама было ўзгаданае імя украінскай змагаркі Надзеі Саўчанка, што знаходзіцца ў пуцінскіх засьценках: заклік «Freedom to Savchenko!» («Свабоду Саўчанка!») лунаў па-над вуліцамі Таронта. Уланы гораду забясьпечылі суправаджэньне паліцэйскіх на роварах.

Па скончэньні шэсьця ў Беларускім Цэнтры адбылася ўрачыстая імпрэза. Са сьвяточным зваротам па тэлефоне з ЗША (дзе напярэдадні адбывалася паседжаньне Рады БНР) да ўдзельнікаў мерапрыемства зьвярнулася Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла. Яна адзначыла, што Беларусь ёсьць незалежнай, але не свабоднай і яе мара – перадаць паўнамоцтвы Ураду ў выгнаньні дэмакратычнаму ураду новай вольнай Беларусі.

Сакратар Галоўнай Управы ЗБК Віталь Кошалеў падрабязьней распавёў аб падзеях у Менску ў 2006 годзе, удзельнікам якіх ён быў сам, жывучы тады на Беларусі. Таксама прагучаў заклік да Прэм'ер-міністра Канады далучыцца свой голас у падтрымку Надзеі Саўчанка да галасоў Прэзыдэнтаў ЗША і краін Эўразьвязу.

Алесь Кот распавёў пра гістарычную місію Рады. У прыватнасьці ён нагадаў, што абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі было самай важнай падзеяй у гісторыі сучаснай Беларусі. Безь яго Масква не пагадзілася б стварыць у 1919 годзе савецкую Беларускую рэспубліку (ССРБ, потым – БССР). Калі б не было БССР, Беларусь ня стала бы зноў незалежнай у 1991 годзе. Такім чынам, дзякуючы БНР сёньня існуе незалежная Рэспубліка Беларусь, хаця ўсё яшчэ й несвабодная.

На сучасным гістарычным этапе Рада БНР дзейнічае, грунтуючыся на той ідэі, што яна – частка шляху Беларусі да дэмакратыі і да росквіту. Рада першаю, яшчэ з 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя, выступала і выступае пасярэднікамі паміж Беларусьсю і вольным сьветам. Што яшчэ больш важна – яна застаецца захавальнікам традыцый беларускай дзяржаўнасьці і барацьбы беларусаў за тое, каб мець уласную свабодную і дэмакратычную дзяржаву нароўне зь іншымі народамі Эўропы. Усё гэта для таго, каб наблізіць для Беларусі перамены да лепшага.

Напрыканцы Алесь Кот прадставіў удзельнікам сходу калекцыю партрэтаў Прэзыдэнтаў БНР, што станунцца зьмешчанымі ў Ганаровай Галерэі Беларускага Цэнтру ў Таронта.

Напрыканцы афіцыйнае часткі слова ўзяў Барыс Кірка, бадай найстарэйшы сябра ЗБК. Ён заклікаў беларусаў да еднасьці, а таксама падтрымаў ідэю шырэйшага ахопу беларускай грамады Канады праз культурніцкія мерапрыемствы (як, прыкладам, сэрыя урокаў «Мова Нанова», што праходзіць сёлета ў Беларускім Цэнтры ў Таронта).

Сапраўды сьвяточны настрой стварыў выступ вядомай сьпявачкі Сьвятланы Літвінавай, якая на працягу 15 гадоў была салісткай Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча. Народныя песьні пра вясну, любоў да Бацькаўшчыны й жартаўлівыя прыпеўкі закранулі ўсіх слухачоў. Публіка прасіла прасьпяваць яшчэ болей улюбёных песьняў.

Часткай імпрэзы стаўся й сьвяточны стол з пачастункамі, сярод якіх былі пірагі з надпісамі «Воля», «За свабоду», а таксама цукеркі з гербам «Пагоня» часоў абвяшчэньня БНР, і ў сучасным варыянце.

***Згуртаваньне Беларусаў Канады***




# Дзень Волі ў Лёндане

***26 сакавіка 2016 г. у зале Беларускага Дому ў Лёндане Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі ладзіла сьвяточны сход на адзначэньне 98-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Напачатку прысутныя заслухалі прынагодны зварот Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы. Далей былі прачытаныя вершы Рыгора Барадуліна і Натальлі Арсеньневай, прысьвечаныя 25 Сакавіка.***



Мікола Пачкаеў

Старшыня ЗБВБ Мікола Пачкаеў выступіў з прэзэнтацыяй нядаўна апублікаваных зьвестак на тэму сувязі паміж дзейнасьцю Рады БНР і абвяшчэньнем БССР 1 студзеня 1919 г. Ва ўводзінах ён нагадаў прыклады публікаваных яшчэ ў СССР дакумэнтаў, з якіх вынікае, што абвяшчэньне савецкае ўлады ў Беларусі агулам, і абвяшчэньне Савецкай Беларусі, ў прыватнасьці, дэкляравалася самімі бальшавікамі не на "пустым месцы" — а са спасылкаю на зьвяржэньне ўлады БНР. Выступоўца распавёў пра апублікаваныя адносна нядаўна ў Беларусі пратаколы бальшавіцкіх нарадаў пачатку 1919 г., дзе адназначна прызнавалася: "существование Белорусской Рады заставило" (урад РСФСР) "выдвинуть Белорусскую Республику" — санкцыянаваць абвяшчэньне ССРБ 1 студзеня 1919. Прамоўца падкрэсьліў, што на той момант Чырвоная Армія РСФСР ужо два з паловаю тыдні як захапіла Менск — а гэта мае азначаць, што менавіта адмова дзяржаўных інстытуцыяў БНР саманліквідавацца ў той момант, працяг іх дзейнасьці ў Горадні, фармаваньне там аддзелаў беларускіх гусараў, актыўная міжнародная дзейнасьць ураду Луцкевіча — перакаланалі нарэшце маскоўскіх бальшавікоў, што з фактам абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. незалежнасьці Беларусі яны мусяць лічыцца. Тэзу аб тым, што "без БНР не было бы БССР" трэба ўважаць дакумэнтальна даказанай.



Павал Шаўцоў, намесьнік старшыні ЗБВБ

Напрыканцы прамоўца распавёў пра Сэсію Рады БНР у Нью-Ёрку 19 сакавіка 2016 году, прэзэнтаваў "Гадавікі" Рады БНР.

Урачысты сход быў завершаны сьпевам гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

# Беларусы ЗША заклікалі Amnesty International надаваць больш увагі сітуацыі ў Беларусі

***Гурток Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА) у Паўднёвай Фларыдзе ўзяў удзел у буйной штогадовай канферэнцыі аб правах чалавека.***

51-я штогадовая канферэнцыя праходзіла ў Маямі і сабрала праваабаронцаў не толькі з Амерыкі, але і з усяго свету для абмену ведамі, вызначэння магчымасцяў і механізмаў уплыву ў галіне правоў чалавека ў канкрэтных месцах, рэгіёнах і ва ўсім свеце.




Сябры БАЗА прыцягвалі ўвагу прысутных праваабаронцаў да парушэння правоў чалавека ў Беларусі, збіралі подпісы пад петыцыямі, адрасаванымі дзяржаўным чыноўнікам, а таксама дзяліліся звесткамі аб рэзанансных фактах, якія сведчаць пра пагаршэнне сітуацыі з выкананнем палітычных, эканамічных, сацыяльных і культурных правоў у Беларусі.

Вячаслаў Бортнік, які з'яўляецца рэгіянальным каардынатарам у Еўразійскім рэгіёне Amnesty International, куды ўваходзіць Беларусь, Украіна і Расея, адзначыў, што ў апошнія гады фокус амерыканскай секцыі быў ссунуты ў бок развязання праблем з правамі чалавека ва ўласнай краіне, што некалькі адсунула міжнародную працу на другі план. З прычыны такой тэндэнцыі ўдзел беларускіх актывістаў у канферэнцыі меў асаблівую важнасць.







Старшыня Гуртка Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў Паўднёвай Фларыдзе Сяргей Волкаў адзначыў, што іх ўдзел ў канферэнцыі паклаў пачатак партнёрству паміж арганізацыямі БАЗА і Amnesty International, што дазволіць аб'яднаць намаганні для абароны правоў чалавека ў Беларусі.

Сябра арганізацыі Анастасія Станкевіч падкрэсліла, што ў беларусаў, якія пражываюць у ЗША, няма маральнага права быць абыякавымі назіральнікамі за парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі.

«Мы прыйшлі на гэтую канферэнцыю, каб быць пачутымі», - сказала Станкевіч.

Amnesty International з'яўляецца найбуйнейшай арганізацыяй у свеце, якая лабіюе абарону правоў чалавека, як на ўзроўні ўрадаў дзяржаў, так і на ўзроўні мясцовых супольнасцяў.

Праваабарончая арганізацыя стала сочыць за выкананнем правоў чалавека ў Беларусі, складае штогадовыя справаздачы з дэталёвым апісаннем канкрэтных парушэнняў і абвяшчае вязняў сумлення, якія былі рэпрэсаваныя за свае перакананні.

***Сяргей Волкаў***
*Фларыда*

# Каляндар памятных датаў на травень 2016

**1 траўня - 110 гадоў** таму, у 1906 годзе, **нарадзілася Аляксандра Бергман**, даследчыца беларускай гісторыі

**1 траўня - 30 гадоў** таму, у 1986 годзе, **памёр Сьцяпан Александровіч**, літаратуразнавец, краязнавец

**3 траўня - Сусьветны дзень свабоды друку**

**6 траўня - 90 гадоў** таму, у 1926 годзе, **памёр Казімір Сваяк** (Стаповіч), каталіцкі сьвятар, паэт

**7 траўня - Сьвята абраза Маці Божай Жыровіцкай**

**8 траўня - Сусьветны дзень Чырвонага Крыжа**

**15 траўня - 80 гадоў** таму, у 1936 годзе, **нарадзіўся Барыс Сачанка**, пісьменьнік, публіцыст

**15 траўня - 45 гадоў** таму, у 1971 годзе, **адкрылася ў Лёндане Бібліятэка і музэй імя Францішка Скарыны**

**16 траўня - 30 гадоў** таму, у 1986 годзе, у Гародні **адкрыўся Музэй Максіма Багдановіча**

**17 траўня - 85 гадоў** таму, у 1931 годзе, у маскоўскай турме **памёр мітрапаліт Мельхісэдэк**, праваслаўны царкоўны дзеяч

**18 траўня - Міжнародны дзень музэяў**

**18 траўня - 110 гадоў** таму, у 1906 годзе, у Пецярбургу **заснавана выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша аконца"**

**20 траўня - 10 гадоў** таму, у 2006 годзе, **памёр Уладзімір Плешчанка**, грамадзкі дзеяч, удзельнік адраджэнскага руху

**23 траўня - 70 гадоў** таму, у 1946 годзе, **памёр у менскай турме Кастусь Езавітаў**, дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня

**24 траўня - Дзень славянскай пісьменнасьці**

**26 траўня - 110 гадоў** таму, у 1926 годзе, **заснавана Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне "Узвышша"**

**27 траўня - 25 гадоў** таму, у 1991 годзе, у Менску **створаная Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і адбыўся першы кангрэс беларусістаў**

**30 траўня - 190 гадоў** таму, у 1826 годзе, **нарадзіўся Зыгмунт Серакоўскі**, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 г.г.

**31 траўня - 20 гадоў** таму, у 1996 годзе, **у Іркуцку створана Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага,** адна з найбольш актыўных суполак у беларускім замежжы.



# Нкляеў у Вашынгтоне

Пад час свайго візыту ў ЗША Уладзімір Някляеў узяў удзел у дыскусіі "Беларусь паміж Усходам і Захадам", якая адбывалася 31 сакавіка ў Школе перадавых міжнародных дасьледаваньняў Пола Нітцэ пры Універсытэце Джона Хопкінса (Вашынгтон). У абмеркаваньні тэмы ўдзельнічалі дырэктар вашынгтонскага Інстытута Кеннана Мэцью Ражанскі, прадстаўнікі Дзярждэпартамэнта ЗША, няўрадавых арганізацый і беларускай дыяспары, а таксама студэнты унівэрсытэта. У сваім выступе Уладзімір Някляеў выказаў падтрымку палітыкі збліжэньня, якую распачаў Захад адносна да ўладаў Беларусі, аднак ён падкрэсьліў, што дыялёг з Лукашэнкам патрэбна вясьці на ўмовах Захаду, а не падтасоўвацца пад палітыку рэжыму.



Палітык таксама адзначыў, што яму падаецца больш пасьлядоўнай палітыка ЗША у адносінах да Беларусі, чым палітыка Эўразьвязу, бо Амэрыка выстаўляе больш жорсткія патрабаваньні, напрыклад, аб правядзеньні справядлівых выбараў. Таксама пытаньне аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі не павінна засланяцца праблемамі глябальнай палітыкі. Някляеў заявіў, што ён перакананы ў немагчымасьці правядзеньня рэформ у Беларусі пры існуючай уладзе. Але, зьмена ўлады магчымая толькі пры ўмове аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў беларускага грамадзтва. Менавіта дзеля кансалідацыі апазыцыйных рэжыму сілаў палітык ініцыюе сёньня стварэньне руху "За дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі"

У той жа дзень 31 сакавіка Уладзімір Някляеў пабываў на прыёме ў Дзярдэпартамэнце ЗША, дзе адбылася размова пра эканамічную і палітычную сытуацыю ў Беларусі.







## Маналёг Ягайлы

### з паэмы Уладзіміра Някляева "Паланэз"

*На ўзгоркі Нальшы коса падаў*
*Срабрысты дождж, і ў срэбры тым*
*Стаяў Міндоўг, а поруч з ім —*
*Ягайла, пяты сын Альгерда...*
*— Калі не ведаеш, дык ведай, —*
*Прамовіў ён, —*
*Я крыжакам*
*Пацвердзіў Жмудзь пасля Міндоўга,*
*Бо не яна Айчына нам —*
*І ў нас няма прад ёю доўгу.*
*А доўг ва ўсіх у нас адзін:*
*Перад Літвою доўг вялікі*
*Яшчэ з пары, як Гедзімін*
*Заваяваў сталіцу вількаў.*
*Праз гэты доўг —супроць Масквы —*
*Я з Польшчай ажаніцца мусіў,*
*Каб адстаяць Літвы правы,*
*Каб л ё с Вялікае Літвы*
*Не стаўся л ё с а м Беларусі.*
*Ды ўсё дарма...*
*Вы лес апелі.*
*Згубілі ўсё, што продкі мелі,*
*Ператварылі край ваўкоў*
*У край зайцоў...Я маю права*
*Спытацца з глыбіні вякоў:*
*Вы хто — народ?*
*Вы што — дзяржава?*
*Адкуль, калі няма слядоў?*
*Пазнаўшы зайца па губе,*
*Вам Жмудзь пад нос паднесла дулю,*
*Як Беларусь вы на сябе,*
*На край літвінаў нацягнулі.*
*Вы разлучылі дух з крывёю*
*І, абрусеўшы пад Масквою,*
*Пад назвай, дадзенай Масквой,*
*Не сталі нават маскалямі,*
*А толькі назваю адной —*
*І тая назва стала вамі.*
*Вы — беларусы?*
*Хто такія?*
*Ёсць Польшча,*
*Жмудзь,*
*Літва,*
*Расія —*
*Як вы ўшчаміліся сярод?*
*Адкуль з'явіліся? З балот?*
*З чаго зляпіліся? З туманаў?..*
*Такіх падмен,*
*Такіх падманаў*
*Не ведаў ні адзін народ.*
*І што цяпер? Хай так і будзе,*
*Абы не горш? Вы што за людзі:*
*Вам звацца хочацца людзьмі,*
*Ці імі быць,*
*Ці біцца ў грудзі —*
*Ці ўстаць за крэўны край грудзьмі?*

# Сустрэчы амэрыканскіх беларусаў з Уладзімірам Някляевым

Знакаміты госьць з Беларусі паэт і палітык Уладзімір Някляеў не толькі прысутнічаў на сьвяткаваньні Дня волі ў Нью-Ёрку, але і правёў сяброўскія сустрэчы з амэрыканскімі беларусамі, дзе больш падрабязна распавёў пра сытуацыю ў Беларусі, пра тое, якія дзеяньні праводзяцца беларускімі апазыцыйнымі сіламі ў справе супраціву дыктатарскаму рэжыму. Адказаў на пытаньні прысутных і прачытаў свае новыя паэтычныя творы. Пад час сустрэчаў прадаваліся кнігі паэта і ўсе жадаючыя маглі атрымаць аўтографы.

Важным вынікам гэтых сустрэчаў была выказаная падтрымка з боку амэрыканскіх беларусаў і жаданьне ўдзелу ў новай ініцыятыве палітыка - стварэньне грамадзкага руху "За дзяржаўнасьць і незалежнасьць".



У Нью-Ёрку такая сустрэча праходзіла 6 красавіка ў грамадскай залі сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

Паэт наведаў і беларускую грамаду ў Нью Брансуіку, штат Нью Джэрзі, дзе пражывае шмат беларусаў, якія з цікавасьцю прынялі удзел у сустрэчы. Яна прайшла 8 красавіка ў грамадзкай залі беларускай царквы Жыровіцкай Іконы Божай Маці ў Highland Park. З гэтай нагоды там была арганізавана невялікая выстава твораў беларускіх мастакоў Рыгора Батальёнка і Алеся Шатэрніка.



У суботу 9 красавіка Уладзімір Някляеў быў госьцем у Беларускім цэнтры ў Саўт Рывэры. Перад гэтым ён у суправаджэньні прадстаўнікоў БАЗА наведаў беларускія молгілкі ў Нью Брансуіку і Саўт Рывэры, каб ушанаваць памяць вядомых беларускіх дзеячаў.

Спатканьне ў Беларускім цэнтры атрымалася вельмі цёплым і сардэчным, дайшло нават да сумесных сьпеваў пад гармонік.

**Ганна Сурмач**

**Не стала Ніла Гілевіча – паэта, навукоўца, выкладчыка, дзяржаўнага і грамадзкага дзеяча. Выбітная постаць беларускай культуры і ўсёй сучаснай беларускай гісторыі, імя якой не будзе забытым.**



# Апошні Народны паэт Беларусі

Ніл Сымонавіч пакутаваў на анкалягічную хваробу, ад чаго і памёр 29 сакавіка.

Ніл Гілевіч нарадзіўся 30 верасня 1931 года ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна Менскай вобласьці. Скончыў Менскае педагагічнае вучылішча імя Н. К. Крупскай (1951), а таксама філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага унівэрсітэта (1956). Кандыдат філалагічных навук, прафэсар. У 1958-1963 гадах працаваў літаратурным кансультантам газеты «Звязда». З 1960 года працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980—1989 — першы сакратар праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў БССР. З 1989 — старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Галоўны рэдактар газеты-бюлетэня ТБМ «Наша слова». З чэрвеня 1990 — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савету БССР па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны. Дэпутат Вярхоўнага Савету БССР (1985—1990). У 1990 годзе быў абраны народным дэпутатам БССР. Сябра Прэзыдыуму Вярхоўнага Савету БССР.



У літаратуры Ніл Гілевіч правеў 70 гадоў — першыя яго вершы былі надрукаваныя ў далёкім пасляваенным 1946 годзе.

Выдаў каля двух дзесяткаў зборнікаў вершаў і раман у вершах "Родныя дзеці". Аўтар знакамітай паэмы "Сказ пра Лысую гару", якая была перавыдадзена беларускай дыяспараю ў Амэрыцы.

Ніл Гілевіч – адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", таксама адзін з арганізатараў Першага з'езда беларусаў свету, на якім быў абраны ў першую Вялікую Раду і быў у ёй шмат гадоў.



Паэт Сяргей Панізьнік даслаў нам з нагоды сумнай весткі пра сьмерць Ніла Сымонавіча свой верш, прысьвечаны памяці волата сучаснай беларускай літаратуры і змагара за родную мову, культуру, за лепшую будучыню Бацькаўшчыны:

*Ніл Сымонавіч!*
*Я ўкленчу*
*перад Марай – той зямлёй,*
*дзе жылі б адной сям"ёй.*
*Згадвалі Вы:*
*край наш – з енчу:*
*браць бы поручню-парэнчу,*
*мы ж махалі аглаблёй.*
*– Рацы збіраць! –*
*не ўсе крычалі.*
*– У паход! – не ўсе гулі...*
*І нас бэсцілі, знішчалі...*
*Даастатку не зямлі*
*з нашай роднае зямлі.*
*Так! Мы будзем, будзем.*
*Будзем!*
*Толькі ж цені крывічоў*
*не дадуць сваіх мячоў.*
*На рушэнне ці палюддзе*
*знойдзем новых трубачоў.*
*Ніл Сымонавіч! На голле*
*прывілі Вы вочкі слоў.*
*Давялі Вы да галоў:*
*спее сведамая Воля –*
*весняй нацыі улоў.*

*Пачатак на 1-й і 3-й бачынах*

3. Заклікае Эўрапейскі Парлямэнт разгледзіць зьмест і абставіны рашэньняў эўрапейскіх інстытуцыяў у адносінах з рэжымам Лукашэнкі ў Беларусі, з увагі на небясьпеку адыходу ў дзеяньнях Рады ЭЗ ад падставовых каштоўнасьцяў, закладзеных у падмурку Эўрапейскага Зьвязу, дзеля тымчасовых інтарэсаў і кароткатэрміновых задачаў;

4. Заклікае Раду Эўрапейскага Зьвязу і іншыя інстытуцыі Эўрапейскага Зьвязу кардынальна ўзмацніць і пашырыць падтрымку тым грамадзкім і палітычным сілам у Беларусі і ў замежжы, якія імкнуцца да аднаўленьня ў Беларусі дэмакратыі. Рада БНР дадаткова засьцерагае ад спрычыненьня, у выніку рашэньняў Рады ЭЗ аб скасаваньні санкцыяў, шкоды адносным палітычным пазыцыям пра-дэмакратычных, дэмакратычна-незалежніцкіх і пра-эўрапейскіх сілаў у Беларусі, і заклікае да захадаў з боку Эўрапейскага Зьвязу дзеля кампэнсаваньня такой палітычнай шкоды;

5. Заклікае Раду Эўрапейскага Зьвязу настойваць у рамках яе адносінаў зь дзяржаўнымі ўладамі ў Беларусі на забесьпячэньні абавязковага прадстаўніцтва для голасу тых незалежных беларускіх палітычных і грамадзкіх сілаў, якія дамагаюцца аднаўленьня дэмакратыі, забесьпячэньня правоў чалавека і вярхоўнства закона ў Беларусі;

6. Заклікае Раду Эўрапейскага Зьвязу да комплексныхаднабаковых захадаў дзеля збліжэньня з грамадзтвам Беларусі, не зважаючы на інтарэсы і без умовы супрацоўніцтва з боку рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, у тым ліку да лібэралізацыі візавага рэжыма для грамадзянаў Беларусі, за выключэньнем асобаў, адносна якіх была ўсталяваная датычнасьць да катэгорыяў парушэньняў, зафіксаваных у адпаведных рашэньнях аб санкцыях, або такая датычнасьць будзе ўсталяваная ў пышласьці;

7. Даручае Прэзыдыюму Рады БНР ажыцьцяўляць захады спрыяньня ў разе, калі зацікаўленыя бакі пададуць адпаведныя рашэньні Рады ЭЗ на разгляд Эўрапейскага Суду Справядлівасьці, з увагі на фармаваньне істотнай доказнай базы таго, што Рада ЭЗ скасавала санкцыі насуперак нязьменнасьці фактаў і абставінаў, усталяваных Радаю ЭЗ у якасьці законных падставаў для ўвядзеньня санкцыяў ды шматразовага іх падаўжэньня і карэкцыі;

8. Пацьвярджае, што бачыць будучыню для належнага забесьпячэньня беларускіх нацыянальных інтарэсаў у кантэксьце далучэньня Беларусі да Эўра-Атлянычнай супольнасьці дэмакратычных дзяржаваў;

9. Даручае Прэзыдыюму Рады БНР накіраваць гэтую рэзалюцыю да ўвагі беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў у Беларусі і ў замежжы, а таксама да ўвагі Рады Эўрапейскага Зьвязу, Эўрапейскай Камісіі, Эўрапейскага Парлямэнта, Парлямэнцкай Асамблеі Эўранэст, Арганізацыі бясьпекі і супрацы ў Эўропе, Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы, урадам і заканадаўцам дзяржаваў.

# У Менску разьвіталіся з літаратуразнаўцам Уладзімірам Казберуком

***(29.08.1923 - 04.04.2016)***



7 красавіка адбылося развітанне са знаным літаратуразнаўцам, сябрам ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Уладзімірам Міхайлавічам Казберуком, які пайшоў з жыцця 4 красавіка ва ўзросце 93 гадоў.



# Вянок памяці: Зьміцер Саўка



Выбітны мовазнаўца Зьміцер Саўка памёр 9 красавіка на 51-м годзе жыцьця па прычыне хваробы на рак. Пакінуў у самоце жонку і чатырох дзяцей.

Зьміцер Саўка нарадзіўся 26 ліпеня 1965 года ў Менску. Удзельнічаў у маладзёвым грамадзкім аб'яднаньні «Беларуская Майстроўня» (1979–1984). Аўтар кніг «Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі. Бібліяграфія» (у суаўтарстве з В. Кіпелем, Нью-Ёрк–Менск, 2002) і «Беларускі клясычны правапіс» (у суаўтарстве з Юрасём Бушляковым, Вінцуком Вячоркам, Зьмітром Санькам; Вільня–Менск, 2005).

Зміцер быў адным з аўтараў праграмы «Моўнік», якая выходзіла на тэлеканале «Белсат».

У 2015 годзе разам з моўнай службай «Белсату» і пры дапамозе валанцёраў стварыў моўны онлайн-сэрвіс «Добрапіс».

Беларусы Нью-Ёрку пазнаёміліся з мовазнаўцам пад час ягонага колішняга прыезду ў Амэрыку, калі ён працаваў з эміграцыйнымі архівамі. З нагоды адыходу ў вечнасьць сп. Саўкі, які пакінуў па сабе добрую памяць, у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) у Брукліне была адслужаная паніхіда.

# Памёр музычны крытык Вітаўт Мартыненка



***У 1980-я ён першым пачаў раскручваць беларускамоўны рок.***

Вітаўт Мартыненка памёр 17 красавіка па прычыне хваробы на цукровы дыябет.

Ён нарадзіўся 29 верасня 1959 года ў Менску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, працаваў журналістам у розных перыядычных выданьнях. У 1985 разам з сябрам і музычным крытыкам Анатолем Мельгуем быў сярод стваральнікаў незалежнага музычнага рок-клуба «Няміга».

Амэрыканскім беларусам Вітаўт Мартыненка найперш вядомы як суаўтар разам з А. Мельгуем музыказнаўчай кнігі «Праз рок-прызму», якая была выдадзена ў Нью-Ёрку у 1989 годзе.

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Людміла Бакуновіч | $ 50 |
| Ліза Бакуновіч-Грыс (Аўстралія) | $ 60 |
| Кацярына Вініцкі | $ 50 |
| Ніна і Сымон Дудар | $ 55 |
| Яўген і Вольга Кабяко | $ 50 |
| Анна Куліна – Патэ | $ 100 |
| Алеся Лукашэвіч | $ 10 |
| Кастусь Маталыцкі | $ 60 |
| Яўген Папкоў | $ 50 |
| Уладзімер Ракуць | $ 100 |
| Івонка Сурвіла | $ 60 |
| Тацьцяна і Сяргей Уладзімеравы | $ 20 |
| Янка Ясьвіловіч (UK) | анг.фунт 70 |
| Дар'я Ятчанка | $ 10 |

**Вельмі дзякуем усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае:**
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**ISSN 1054-9455**
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published by**
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**



Паштовы адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**
Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**
Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***

*Грашовыя чэкі выпісываць на імя:* ***BIELARUS Newspaper*** *і дасылаць скарбніку на паштовы адрас Рэдакцыі.*

***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***